ТЭЛЕПРАГРАМА НА ТЫДЗЕНЬ

№№237-238 (1800-1801)

Субота, 13 снежня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -4...-2, без ападкаў, уначы — -1...+1, снег; у Брэсце ўдзень — 0...+2, без ападкаў, уначы — +2...+4, дождж; у Гродне ўдзень — -1...+1, без ападкаў, уначы — +2...+4, дождж; у Віцебску ўдзень — -5...-3, без ападкаў, уначы — -3...-1, снег; у Гомелі ўдзень — -3...-1, без ападкаў, уначы — -3...-1, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — -5...-3, без ападкаў, уначы — -3...-1, снег.

*www.meteo.by*



## Канстытуцыйны суд — за беларускую мову

На імя старшыні Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны" А.Трусава прыйшоў ліст ад намесніка Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь А.У.Марыскіна. Паведамляецца, што 4 снежня 2003 года Канстытуцыйны суд прыняў пратакольнае рашэнне *"Аб выкарыстанні беларускай і рускай моў у сферы абслугоўвання, абароту банкаўскіх пластыкавых картак і ў сістэме дзяржаўнага сацыяльнага страхавання".*

У рашэнні Канстытуцыйны суд зноў прапанаваў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь разгледзець пытанне аб унясенні ў Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" і іншыя акты заканадаўства змяненняў і дапаўненняў, здольных забяспечыць фактычную роўнасць дзяржаўных моў.

## Алена Зубрилова открывает «сезон охоты»

Говорили же мы, что будет и на нашей улице праздник. Позавчера на очередном этапе Кубка мира по биатлону **Алена ЗУБРИЛОВА,** которая, как известно, поменяла украинское гражданство на белорусское, стала первой в спринтерской гонке на 7,5 километра.

Для тех, кто не знает. Еще в 1997 году украинская биатлонистка поразила всех, завоевав три серебряные медали на чемпионате мира в Словакии. Это был настоящий выход из тени на свет. Даже сама спортсменка считала, что это — потолок ее спортивной карьеры. Но уже через два года, начиная с января 1999 года, она практически не покидала пьедестал почета, в том числе трижды выиграла "золото" на чемпионате мира. Только после этого Елена до конца поверила в свои силы.

В начале спортивной карьеры любимой дистанцией Зубриловой была пятнадцатикилометровая. К 97-му она уже стала универсалом, хотя сейчас и сама не знает, какой из дистанций отдает предпочтение.

Потом, после перехода Алены на "белорусскую сторону", был скандал и спортсменку называли на родной Украине чуть ли не изменницей Родины. И было уже в составе белорусской сборной ее "серебро" на чемпионате мира, теперь вот "золото" на этапе Кубка мира.

Задел есть! Продолжение следует?

**Алесь НИКАНОРОВ.**

## Беларус Аляксандр Глеб згуляе супраць каманды Рамана Абрамовіча

Учора прайшла жараб'ёўка Лігі чэмпіёнаў УЕФА. У 1/8 фіналу згуляюць паміж сабой:

"Штутгарт" (Германія) - "Чэлсі" (Англія)

"Порту" (Партугалія) - "Манчэсцер Юнайтэд" (Англія)

"Рэал Сасьедад" (Іспанія) - "Алімпік" (Францыя)

"Сельта" (Іспанія) - "Арсенал" (Англія)

"Бавáрыя" (Германія) - "Рэал" (Мадрыд, Іспанія)

"Спарта" (Чэхія) - "Мілан" (Італія)

"Дэпартыва" (Іспанія) - "Ювентус" (Італія)

"Лакаматыў" (Расія) - "Манака" (Францыя).

**Антось ПАВЕРКА.**

АВАЛЬНАЯ ЗАЛА

## Прапанова Уладзіміра Дзялендзіка можа прынесці ў бюджэт краіны 100 мільярдаў рублёў

Як вядома, у наступны аўторак дэпутаты Палаты прадстаўнікоў працягнуць абмеркаванне праекта Закона аб бюджэце на 2004 год. Сёй-той з народных выбраннікаў, мабыць, спадзеючыся спадабацца не выбаршчыкам, а галоўнаму "рулявому", ужо вылузнуўся з гэтай нагоды. Які дзень уся краіна хадуном ходзіць ад прапановы Хрола наконт увядзення таго ж 18-працэнтнага падатку на мабільныя тэлефоны. Можа, бедалага і сам не рад, што так непрыгожа вылузнуўся — нацярпеўся ўжо і ад сваіх калег, і ад тэлефонных "тэрарыстаў", якія скарысталіся яго асабістымі нумарамі, абвешчанымі на сайце Хартыяй'97. Давялі спадара-таварышча Хлора да таго, што той запатрабаваў ад КДБ зачыніць сайт у Інтэрнеце.

У адрозненне ад "авангардыста" Валерыя Хрола, яго калега Уладзімір Дзялендзік сур'ёзна падышоў да вылучэння сваёй папраўкі да бюджэту 2004 года. Сутнасць прапановы заключаецца ў наступным: увесці роўныя ўмовы для ўсіх прадпрыемстваў у іх дачыненнях з імпарцёрамі (незалежна — свае яны ці замежныя), якія сёння пастаўляюць прадукцыю ў пластмасавай тары на тэрыторыю нашай краіны. Раней Савет міністраў прыняў рашэнне, якое прадугледжвае не толькі перапрацоўку пластмасавай тары, але і тое, што ўсе без выключэння прадпрыемствы, якія выкарыстоўваюць у сваіх вырабах пластмасу, павінны садзейнічаць экалагічнаму ачышчэнню краіны, адлічваючы ў бюджэт 60 базавых велічынь.

А пастаўшчыкі з блізкага і далёкага замежжа, што ўвозяць да нас вырабы, якія ўпакаваны ў пластмасу і шкло (для нас гэта адыходы, якія трэба збіраць, а потым перапрацоўваць або знішчаць), не плацяць ні капейкі. А таму Уладзімір Дзялендзік прапануе: браць і з гэтых пастаўшчыкоў 60 базавых велічынь. Усё гэта, паводле падлікаў дэпутата, прынясе ў дзяржаўны бюджэт каля 100 мільярдаў рублёў дадатковых збораў. Акрамя таго: сёння ў замежных імпарцёраў цана на свае вырабы, улічваючы такую дармаўшчыну, таннейшая, яны ў выніку канкурэнцыі з дапамогай нашага ж урада могуць канчаткова "паваліць" нашы прадпрыемствы. Больш таго, як заўважыў дэпутат Ул.Дзялендзік, гэтыя грошы нярэдка расходуюцца не па прызначэнні. А вось калі тая ж "Дарыда" экспартуе сваю прадукцыю ў Літву, Латвію ці Польшчу, там бяруць 18 працэнтаў ад аб'ёму мытнай пошліны (гэта, дарэчы, тое ж самае, што прапануе зрабіць і на нашай тэрыторыі Ул.Дзялендзік). Такая практыка распаўсюджана ў краінах Еўропы і іншых дзяржавах.

Варта зазначыць і яшчэ адно: ад увядзення такога заканадаўчага акта аб'ём імпарту з-за ўвядзення дадатковых збораў з імпарцёраў у нашу краіну "пластмасавага смецця" не зменшыцца, таму што там бывае нават здзіўляюцца таму, што ў нас не выкарыстоўваецца такая магчымасць папаўнення бюджэту, якая ў замежжы стала нормай, законам для вытворцаў і экспарцёраў вырабаў у пластмасавай упакоўцы.

**Васіль МАРЫНІН.**



## Галоўная ёлка Беларусі

*Яна ўстаноўлена ў цэнтры Мінска, вышыня — 32 метры*

Галоўная прыгажуня краіны складаецца са 121 невялікай елачкі, якія вышынёй ад 3 да 6 метраў. На яе ўсталяванне рабочым УП "Мінскгарафармленне" спатрэбілася тры дні.

А на плошчы Незалежнасці вырашылі паставіць штучную ёлку, прыблізна 12-14 метраў вышынёй.

Усяго на вуліцах Мінска падчас свят з'явяцца каля 50 навагодніх ёлак. Цікава, што калі рабочыя шукалі 18 ёлачак для раёнаў сталіцы, то аб'ехалі ажно 10 лясоў, каб прывезці ў сталіцу сапраўдных пушыстых прыгажунь.

Як заўсёды, упрыгожваць Мінск навагоднія ёлачкі будуць да старога Новага года.

**Фота ByMedia.net**

ПО ПОВОДУ...

## Как господин министр перескочил с 1933 года в 1974-й

Пишу под впечатлением незабываемого праздника: моему любимому Театру оперы и балета исполнилось 70 лет.

Много это или мало? Для истории мировой культуры — всего лишь миг, а для нашей молодой страны — солидная дата.

Конечно, все началось со встреч в фойе ветеранов театра. Сколько было волнения, радости, а порою и слез...

А потом началась торжественная часть. Публика стоя приветствовала труппу, всех — от скромных машинистов сцены до убеленных сединой ведущих звезд театра.

С приветственным словом выступил министр культуры Республики Беларусь. И здесь нас немало удивили...

Бодро поздравив театр, уважаемый министр, упомянув обязательных Л.П.Александровскую, А.В.Николаеву и некоторых прежних звезд, как-то очень, я бы сказал, изящно перескочил из 1933 года в год 1974-й. Позвольте, но неужели прошедшие 40 лет ничем особенным не были отмечены? Неужели театр приобрел значимость только с приходом уважаемого Валентина Елизарьева?

Ну уж нет!

Это были годы становления и взросления белорусской труппы. В опере блистали такие мастера, как И.Болотин, Р.Млодех, Н.Ворвулев, М.Зюванов, Т.Нижникова, З.Бабий; балет украшали своим искусством Э.Васильева, Н.Давыденко, В.Давыдов, С.Дречин, А.Корзенкова, В.Крикова, К.Малышева, В.Миронов, Л.Ряженова (к слову будет сказано, я имел честь танцевать с ней мое самое первое "Лебединое озеро" в партии принца Зигфрида), И.Савельева, Б.Карпилова. И это только народные артисты республики, а сколько талантливых заслуженных! Кружится голова от имен балетмейстеров, принимавших участие в новых постановках молодой, дерзкой труппы. Моя творческая совесть обязывает вспомнить их поименно. Это "Коппелия" — ставил Лопухов; К.М.Муллер поставил огромное количество балетов; "Соловей" и "Повесть о любви" — А.Ермолаев; "Красный мак" — Дречин; "Мечта", "Свет и тени", "Болеро" — Андреев и Стукалкина; "Жизель" — Федорова; "Лебединое озеро" — А.Мессерер; "Спартак", "Ромео и Джульетта", "Избранница" — О.Дадишкилиани, "Бахчисарайский фонтан" — Р.Захаров. Как вы думаете, поехали бы эти прославленные мастера в слабую, непрофессиональную труппу?..

И только в 1974 году в несущийся с огромной скоростью экспресс под названием Театр оперы и балета вскочил молодой и талантливый Валентин Елизарьев.

Думаю, первое лицо в министерстве обязано знать историю своего музыкального флагмана. То ли по нерадивости своих помощников, то ли еще по какой причине, но министр о нас, ветеранах, как-то подзабыл. Как будто и нет нас, и ничего мы не сделали в этой жизни для родного театра. Обидно, знаете ли...

А теперь о самом главном...

Второе отделение вечера поразило меня высоким уровнем музыкальной и сценической культуры. Строгий отбор, выстроенность программы. Такое не стыдно показывать на любой сценической площадке мира.

Понравились все без исключения. Безукоризненно звучал омолодившийся хор театра, управляемый талантливым руководителем — заслуженным деятелем искусств Н.Ломанович. Уверенно руководил оркестром молодой главный дирижер Чернуха. Как всегда на высоком подъеме исполнили свои партии солисты и оперы, и балета. Немного разочаровал последний. Я отвык уже от деланных искусственных улыбок, скрытой неряшливости поставленных "па". Правда, потом уже я сообразил: эмоции выдавались в соответствии с уровнем зарплаты (в белорусской "валюте") и... я успокоился.

В целом же я могу выделить нескольких исполнителей, блестяще выступивших в концертном отделении. Это самая молодая солистка белорусской оперы Нина Шарубина.

Здесь я позволю себе немного похвастаться: работая в оперной студии Белорусской академии музыки, довелось ставить для нее спектакли "Чио-Чио-сан" Дж.Пуччини и оперу "Паяцы" Д.Леонковалло. Я принимал также некоторое участие в ее устройстве в труппу театра. Горьковского буревестника напоминал мне полет совсем юного солиста балета Саши Бубера; как всегда, покорил публику мягкий интеллигентный голос Володи Петрова; и совершенно блистательно исполнила знаменитые 32 фуэте Н.Фадеева.

Мне показалось, что для праздника такого уровня балет мог бы представить более оригинальный репертуар. В финале, как взрыв бомбы, ярко, дерзко, талантливо показал себя хореографический колледж. Их "Сиртаки" встряхнул зал, заставил поверить, что будущее белорусского балета светло и обнадеживающе.

Театр, ведомый двумя высокоталантливыми художниками — Маргаритой Изворской и Валентином Елизарьевым, — поведет наш музыкальный экспресс к новым высотам исполнительского мастерства. В этом нет сомнения.

От всей души хочется пожелать им: дай вам Бог терпения и удачи. Все остальное у вас имеется.

В заключение хочу заметить следующее: после фашистского концлагеря, после моей огромной борьбы за жизнь и творчество я, инвалид второй группы, ничего не боюсь. В достоверность моих слов я и подписываюсь настоящим...

**Евгений ПАВЛОВИЧ,**
**заслуженный артист Республики Беларусь.**

## Працэс пайшоў

МЗС Беларусі разглядае пытанне аб спрашчэнні працэдуры выдачы віз грамадзянам краін Еўрасаюза.

У прыватнасці, мяркуецца, што для атрымання візы на ўезд у Беларусь грамадзянам краін ЕС не трэба будзе прадастаўляць запрашэнні.

Прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных абверг паведамленні аб тым, што новы парадак выдачы віз ужо дзейнічае. Паводле яго слоў, пытанне будзе вырашана ў хуткім часе, але цяпер усё яшчэ ідзе працэс узгаднення.

**Андрэй СЕРАДА.**

## «Беларусь — востраў у Еўропе...»

*"Паколькі мы шчыра перакананы ў важнасці правоў чалавека, народ Злучаных Штатаў занепакоены сітуацыяй у Беларусі". Пра гэта гаворыцца ў распаўсюджанай заяве амерыканскага пасольства ў Мінску з нагоды Дня правоў чалавека, які адзначаўся 10 снежня.*

"Усё большыя цяжкасці", з якімі сутыкаюцца грамадскія арганізацыі, незалежныя прафсаюзы і СМІ, зазначаецца ў заяве, "не з лепшага боку" характарызуюць беларускія ўлады, якія, па беларускай Канстытуцыі і міжнародных пагадненнях, абавязаны падтрымліваць і гарантаваць правы чалавека для ўсіх грамадзян. "Маючы ў мінулым трагічную гісторыю, Беларусь павінна стаць прыкладам свабоды і цярпімасці, — лічаць у пасольстве ЗША. — Яна павінна стаць мостам, а не востравам у Еўропе". Добрым пачаткам гэтага працэсу, зазначаецца ў заяве, магло б стаць выкананне чатырох патрабаванняў АБСЕ: правядзенне празрыстых і справядлівых выбараў, прадастаўленне рэальнай улады парламенту, стварэнне спрыяльнага клімату для грамадскіх арганізацый і незалежных СМІ, правядзенне вартага даверу расследавання знікнення людзей.

Нядаўна намеснік Дзяржсакратара ЗША Рычард Армітыдж, узгадваецца ў заяве, падкрэсліў рашучасць Злучаных Штатаў "заклікаць беларускія ўлады прадаставіць інфармацыю аб знікненні людзей, а таксама выказаў нашу нязменную падтрымку абаронцам правоў чалавека ў Беларусі".

**Вольга ЛАПІКАВА.**

Народная Воля 13 СНЕЖНЯ 2003 г.

ПУЛЬС

## Новыя сумесі супраць галалёду

Гэтай зімой у Мінску пачнуць выкарыстоўваць новыя, больш экалагічна чыстыя, супрацьлёдавыя матэрыялы для апрацоўкі дарог і вуліц.

Як паведаміў БелаПАН намеснік начальніка ўпраўлення энергетыкі і гарадской гаспадаркі Мінгарвыканкама **Валерый ЧАЧУКЕВІЧ,** новыя рэагенты будуць аказваць нашмат менш адмоўнага ўздзеяння на аўтамабілі, зялёныя насаджэнні і навакольнае асяроддзе ў цэлым. Новыя пасыпачныя сумесі вырабляюцца на аснове калійнай солі, выпрацаванай на ААТ "Беларуськалій" (Салігорск), з увядзеннем у іх склад дадатковых дабавак, распрацаваных Інстытутам біяарганічнай хіміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Зараз завяршаецца наладка лініі па вытворчасці новых сумесей, пасля чаго адразу пачнуцца іх выпрабаванні на цэнтральных вуліцах горада.

Традыцыйна для ліквідацыі аляднення дарожнага палатна ў Мінску выкарыстоўваецца чыстая соль і саляна-пясчаная сумесь. Паводле звестак прадпрыемства "Гаррамаўтадар", толькі за мінулыя выхадныя на вуліцы была высыпана 741 тона солі і 2890 кубаметраў пясчана-салянай сумесі.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Сюзанна Баўман у Мінску

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры ў Мінску адкрылася "Малая сусветная выстава" твораў славутай швейцарскай мастачкі Сюзанны Баўман.

У экспазіцыі прадстаўлены 180 твораў жывапісу і кампазіцый, якія паспяхова дэманстраваліся на міжнародным кірмашы экалагічных тэхналогій "Новая зямля" ў горадзе Осака (Японія) і Рускім музеі Санкт-Пецярбурга (Расія). У аснову праекта ляглі яе ўражанні ад падарожжаў па Афрыцы, Амерыцы і Індыі.

Прадстаўнік пасольства Швейцарыі ў Польшчы і Беларусі **Катрын ШТОКЕР** звярнула ўвагу на культурныя сувязі з Беларуссю. "Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета, Беларускі дзяржаўны музычны тэатр, калектывы Беларускай дзяржаўнай філармоніі, а таксама майстры выяўленчага мастацтва паспяхова дэманструюць сваё мастацтва ў Швейцарыі, а ў Беларусі змаглі пазнаёміцца з работамі швейцарскіх кінематаграфістаў, мастакоў, скульптараў і музыкантаў", — сказала дыпламат.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Меры перасцярогі не пашкодзяць

*У сувязі з апошнімі тэрарыстычнымі актамі ў Расіі ў Беларусі таксама прымаюцца меры па ўмацаванні бяспекі.*

Як паведамілі ўчора карэспандэнту ІТАР-ТАСС у беларускім Міністэрстве ўнутраных спраў, "прынята рашэнне аб правядзенні комплексу дадатковых мерапрыемстваў папераджальнага характару".

Мяркуецца, у прыватнасці, асаблівую ўвагу ўдзяліць месцам масавага скаплення людзей — вакзалам, рынкам, гандлёвым цэнтрам. Плануецца правесці "дадатковыя праверкі пэўных катэгорый асоб", будзе ўзмоцнены кантроль за прыбыццём у рэспубліку замежных грамадзян.

По словах начальніка Галоўнага ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі МУС Мікалая Хінко, працаваць беларускія міліцыянеры будуць ва ўзаемадзеянні з расійскімі калегамі.

## «Паляванне» на цепласеткі працягваецца

З пачатку гэтага года спецыялісты прадпрыемства "Мінскія цеплавыя сеткі" выявілі і ліквідавалі каля 1900 пашкоджанняў, або на 17 працэнтаў больш, чым летась. Паводле прагнозу энергетыкаў, да канца года на 1 кіламетр сетак прыпадзе 1,6 пашкоджанняў, у той час як наяўнасць двух пашкоджанняў на 1 км ужо лічыцца аварыйнай.

Па спецыяльных графіках штогод у Мінску рамантуецца каля 20 кіламетраў зношаных цепласетак, на большае ў прадпрыемства няма ні фізічнай магчымасці, ні фінансавых сродкаў. Штогод сістэма мае патрэбу ў рамонце 50 кіламетраў сетак. За лета ў сталіцы падчас адключэнняў гарачай вады сярэдняй працягласцю 14 дзён былі адрамантаваны 82 участкі цепламагістралей і размеркавальных сетак агульнай працягласцю 19,2 кіламетра.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Маладыя, ды занадта спрытныя

*У Брэсцкай вобласці затрыманы двое непаўналетніх. Двое з іх падазраюцца ў абрабаванні крамы, трэці — у некалькіх спробах угону аўтамабіляў.*

Першы выпадак адбыўся ў горадзе Высокае Камянецкага раёна. 10 снежня ў міліцыю звярнулася загадчыца аўтакрамы, якая паведаміла пра крадзёж 90 пляшак гарэлкі, цыгарэт і прадуктаў харчавання на суму 300 тысяч рублёў. Па гарачых слядах былі затрыманы двое навучэнцаў мясцовага сельскагаспадарчага каледжа 17 і 16 гадоў.

А ў Пінску 16-гадовы навучэнец адной прафтэхвучэльні 10 снежня спрабаваў угнаць адразу тры аўтамабілі. Ён быў затрыманы міліцыяй каля 8 гадзін раніцы пры спробе ўгону "Масквіча" з двара аднаго з жылых дамоў. У міліцыі высветлілася, што незадоўга да гэтага падлетак спрабаваў скрасці яшчэ дзве машыны, але ў яго нічога не выйшла.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Акіта стала бліжэй...

Часовы паверанны ў справах Рэспублікі Беларусь у Японіі **Анатоль СЦЕПУСЬ** па запрашэнні рэгіянальнага Таварыства дружбы "Японія—Беларусь" наведаў прэфектуру Акіта.

Падчас сустрэчы былі абмеркаваны пытанні павышэння актыўнасці двухбаковых кантактаў, а таксама магчымасць усталявання пабрацімскіх сувязей паміж Акітай і адным з абласных цэнтраў Беларусі.

На сустрэчы ва Універсітэце Акіты былі разгледжаны пытанні двухбаковага ўзаемадзеяння ў медыцынскай галіне. Японскі бок паведаміў пра тое, што ва ўніверсітэце асабліва важнай задачай лічаць перадачу Рэспубліцы Беларусь вопыту лячэння лейкеміі і іншых захворванняў крыві. Дэкан Т.Іідзіма падкрэсліў, што цяпер плануецца пашырэнне фінансавага ўдзелу ўніверсітэта ў арганізацыі стажыровак беларускіх медыкаў, у тым ліку шляхам заключэння пагадненняў аб супрацоўніцтве з Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэтам. Універсітэт Акіты мае намер запрашаць для павышэння кваліфікацыі і ўрачоў са спецыялізаваных бальніц, а таксама іншых медыцынскіх ВНУ Беларусі.

**Андрэй СЕРАДА.**

СУДЬБА



# Литовский белорус из Польши

***Когда мы спросили заместителя генерального директора департамента по делам национальных меньшинств и эмиграции Станислава Витмана, кем из белорусов, проживающих в республике, Литва вправе гордиться, среди прочих прозвучала фамилия журналиста и литератора Алексея АНИЩИКА.***

На интервью он согласился сразу. Видимо, прошли те времена, когда к нему частенько наведывались надоедливые журналисты. Не модно стало говорить и писать о жертвах сталинских репрессий. Первое, что спросил у меня Анищик, извиняясь, — кто я "по национальности". Оказывается, чтобы знать, на каком языке лучше со мной беседовать.

Журналисты, как говорится, так долго не живут: Анищик уже разменял девятый десяток. Алексей Степанович как бы наглядно подтверждает примету: если когда-то тебе чудом удалось избежать верной смерти, жить будешь долго. В конце 1948 года его приговорили к расстрелу. Но тут подоспело временное постановление об отмене смертного приговора. Благодаря ему Анищик отделался... всего лишь двадцатью годами лагерей. В Литве живет с начала 70-х, работал старшим экономистом на предприятии. В 1995-м вышла его первая книга. Пишет вот уже 58 лет.

*— Я родился на хуторе отца. Мои родители были соседями Мицкевичей. Мама была неграмотной, а отец окончил три класса. Родителям я обязан тем, что мне удалось выучиться. Тогда хутора только появились. Фактически люди вырвались из рабства благодаря реформам Столыпина. У отца было около 11 гектаров, и он мог оплачивать мою учебу.*

*В Новогрудской гимназии были особые педагоги — мудрые руководители и патриоты одновременно. Они болели душой за свой народ, хорошо знали его. Принимая учеников в школу, прежде всего выявляли их склонности и таланты. Многое, чему я научился, потом не раз выручало меня в жизни. Советская школа гроша ломаного не стоит в сравнении с той гимназией, на мой взгляд. Один мой ученик рассказывал мне, что уникальную княжескую библиотеку из Щорсов сжег директор советской школы.*

*Гимназию я закончил в 1930 году, за 4 года до того, как ее закрыли польские власти. Поступать в университет мне рекомендовала преподавательница польского языка. Прекрасная, очень добрая, и хоть не красавица, но мы все подростками в нее были влюблены. Она была родом из Познани и посоветовала мне поступить там на экономический факультет.*

*Так я и остался в Польше, работал в Лодзи, Катовицах. Делал экономический журнал, писал в крупнейшую газету Польши. Почти все мои материалы попадали в Варшаву. Когда меня перевели в Краковское отделение редактором, я уже был широко известным публицистом, членом Союза журналистов Польши. Мое влияние было столь велико, что входить к воеводе области я мог, минуя бдительного секретаря. Арестовали, когда я работал директором сразу двух отделов самого крупного издательства Польши, наполовину частного, наполовину государственного, прямо как теперь у вас в Беларуси. Хоть язык у меня не слишком длинный, но я всегда держался правды и потому был неудобен партии.*

Мой собеседник прерывается и начинает надсадно кашлять, потом, глотнув настойки из корня можжевельника, поясняет:

*— Извините, это лагерные последствия — отморожение верхних дыхательных путей. Я отбывал срок в Коми АССР, где лето длится всего лишь два месяца, остальное — зима, 40—45 градусов по Цельсию. На работе нас "пасли" охранники с лютыми псами и автоматами наперевес. Чтобы погреться, даже костра не было. А норма такая, что не больше 10—15 процентов выполнишь. Мы долбили вечную мерзлоту, чтобы проложить дорогу из Коми в Воркуту. Уголь стране нужен был. Полутораметровый лом и кирка были нашими единственными орудиями. Холод пробирал до костей даже в ватной телогрейке, но, когда работаешь, все равно ведь пот прошибает. Некоторые ели снег — пить хотелось. Кто поумнее, тот себя обеспечить питьем старался. Но и они не понимали, чем грозит морозный воздух, попавший в легкие. Умирало очень много людей. Медицина не лечит отмороженные легкие. Но рабов было много... Я спасся тем, что дышал носом, и у меня повреждены только верхние дыхательные пути.*

**— За что вас приговорили к расстрелу?**

*— Я и сам задумываюсь. Истинная причина, о которой догадываюсь, пусть останется при мне. Одно могу сказать: я всегда был человеком прямым, а такие были им не нужны. Официально меня обвинили в шпионаже против СССР, в том, что деньги получал американские... Дикая чушь.*

**— Неужели такие длинные руки были у Москвы, что смогли арестовать вас в Польше?**

*— В те времена в Польше были подобные органы. Меня прямо на работе прихватили. Сказали: "Надо выяснить вопрос, долго держать вас не будем". Как поехали, так ровно на 14 лет. Все отняли, даже пуговицы срезали. Во время допроса посадили в кресло, привязанное цепью к полу. Я сразу же понял что к чему, и сказал следователю: "Все, что касается меня, расскажу, но, если разговор будет касаться незнакомых людей, говорить не стану". — "Я от вас неправды не хочу", — последовал ответ. Удивительно, но следователь сдержал слово. До сих пор помню его фамилию — Носов. Вел он себя вежливо, дал прочесть протокол перед тем, как подписать. Я уж знал, что выхода оттуда нет. Конечно, не хотелось мучений. Но тот следователь за все время следствия не применил ко мне ни разу пыток, ни одного удара или выбитого зуба. Только в Минске, где приговор выносили, было такое. Я потом все сопоставил и понял: не все чекисты подлецы.*

*В моей лагерной жизни тоже приключился удивительный случай. В одном лагере я не пробыл и месяца, как начальник предложил мне написать жалобу в Верховный суд СССР. Я сначала рукой махнул: не буду, все это бесполезно. Он настоял, объяснил, как надо писать. Я тянул, не хотел "глотать крючок". К тому времени он увидел мои "художества", попросил нарисовать что-нибудь для него, привлек к работе в стенгазете. Прошло около года после того, как я отправил прошение, и думать забыл о нем, как приходит извещение Верховного суда о том, что моя просьба рассмотрена. Сняли мне пять лет лагерей строгого режима. С тех пор я стал более внимательно присматриваться к человеческой душе... Когда вернулся в Беларусь, родители уже умерли, отец — давно, а мать всего год не дождалась.*

Фамилия, которую чаще других вспоминает Алексей Анищик, — это, как ни странно, Джугашвили. Для него он — "плохой сапожник", "кровавый пес", Сталиным принципиально не называет. Все советское категорически не приемлет. ГУЛАГ "правильно" воспитал его на всю оставшуюся жизнь. Впрочем, как и сотни тысяч других жертв такого "воспитания".

*— Один шведский профессор посвятил жизнь тому, чтобы подсчитать, сколько людей было уничтожено по вине коммунистических партий в ходе революций и войн. Оказалось — 110 миллионов. На первом месте СССР, на втором — Китай. Особенность членов политбюро компартии была в том, что этим людям было позволено все: расстрелять, зарезать, повесить. Между делом они решали судьбы сотен, тысяч людей. Но ни одного члена политбюро не покарали за его кровавые дела в те времена. Не состоялся еще и суд истории.*

**— У вас сохранилась к ним личная ненависть?**

*— Скажите, а разве можно подать руку или вспомнить добрым словом того, кто уничтожил миллионы крестьян? Ни один нормальный человек не сможет это забыть и простить. За все время существования человечества, может быть, лишь один Христос сумел простить по-настоящему.*

*Я удивляюсь, почему до сих пор живу? Почти все мои друзья ушли, умерла младшая сестра... Нахожу ответ на этот вопрос в том, что сумел сохранить душу чистой: никогда не врал, мог лишь смолчать порой. И еще понял, что самой главной ценностью для человека является доброта. Она, как и зло, передается по наследству. Не всех из псарни Джугашвили я считаю гнильем и ядовитыми отбросами. Невиноваты они, что натурой обижены. А с другой стороны, если человек очень добрый — это тоже не его личная заслуга.*

Пока мы беседовали, Алексей Степанович говорил то по-русски, то переходил на белорусский, иногда вставлял польское или литовское слово.

**— На каком языке вы думаете?**

*— Я хорошо знаю три языка: белорусский, польский и русский. Когда говорю по-русски, акцент у меня белорусский — не слежу за произношением. А поляки ни разу не спросили, кто я по национальности. У них не было сомнения, что поляк. Я же везде себя писал белорусом. Меня и мобилизовывать во Вторую мировую не стали из-за того — в Польше в то время господствовал шовинизм.*

*В Беларуси я родился, учился. Янка Купала, Якуб Колас и Максим Богданович — главные пророки моей души. А еще русскоязычные Эпимах-Шипило и Карский. В то время белорусского языка, можно сказать, не было в культурном обращении. Имперская политика — как и сейчас, кстати. Но теперь белорусский язык уже не получится уничтожить, будьте уверены. Сегодня сознательных белорусов несравнимо больше, чем 100 лет назад. Кто такие белорусы, про которых некоторые высоко стоящие особи и не слышали никогда? Польское государство сделал независимым белорус Пилсудский. Белорус — президент народа на Гавайях, белорус Костюшко получал высшие награды Америки, белорус академик Борис Кит — деятель международного масштаба... Так еще долго перебирать можно.*

**— Вы в курсе тех событий, которые сейчас происходят в Беларуси?**

*— Что происходит — это одно дело, а вот чем все закончится — другое. Я не пророк и в политические дела не лезу. Моя работа — литература, и только. Здесь я потому, что так сложились обстоятельства, никто не принуждал меня. Сегодня я могу жить и в Беларуси, тем более что меня полностью реабилитировали. Но все же моя правдивость кое-кому не нравится — ни здесь, ни в Беларуси. Тем более в сегодняшней...*

Алексей Анищик уважает литовцев за их трудолюбие, за истинный патриотизм. Среди политиков Литвы выделяет Казимиру Прунскене, первого премьер-министра независимой страны. Готов вступить и в исторические дебаты — о том, кто сыграл большую роль в совместной истории Литвы и Беларуси:

*— Литва — не совсем точное слово, раньше им называли в Великом княжестве Литовском Беларусь. То же самое с названием "Вильнюс" — такого написания требует литовская грамматика. А на самом деле всегда была Вильня или Вильно. Пользуясь тем, что Беларусь долго была частью России и не имела своей государственности и символики, они сумели присвоить и переиначить на собственный манер названия...*

Почему-то Анищик не захотел говорить о современной ситуации ни в Беларуси, ни в Литве. Он словно боялся чего-то... Но чего может бояться девяностолетний человек в демократической Литве? А может, просто не хотел "подставлять" меня? Ведь "учеба" в ГУЛАГе не проходит даром и не забывается!

Когда я вышла из дома Алексея Степановича, мне на секунду показалось, что никуда из Беларуси и не уезжала — настолько похожи были старые панельные многоэтажки вокруг на любой спальный район Минска. Но я села в троллейбус с непривычным названием маршрута и поехала в центр Вильнюса. В Старый город...

По данным департамента по делам национальных меньшинств и эмиграции при правительстве Литовской Республики, белорусы составляют 1,2% от общего числа населения (для сравнения: поляков и русских — 6,7% и 6,3% соответственно). Теперь из республики уезжают немногие. Права нацменьшинства в Литве защищают как местные законы, так и директивы 43 и 78 Евросовета, направленные против дискриминационных действий в социальной области.

Белорусская диаспора здесь, по оценкам департамента, не самая активная. "Незаметная" — по сравнению, скажем, с украинцами, коих в республике еще меньше, чем белорусов.

**Аня МЫЗЕНКО.**
*("Абажур").*

ДЫСКУСІЯ

## Скіньце ружовыя акуляры

У "Народнай волі" 5 лістапада быў надрукаваны артыкул Анатоля Ляўковіча "Без компаса корабль никогда не придет к своему причалу".

Безумоўна, аўтар артыкула — з кагорты тых, хто шчыра хоча бачыць нашу Беларусь дэмакратычнай і незалежнай дзяржавай. Ён выказвае сваё бачанне палітычнай сітуацыі ў краіне і прапануе варыянты дзейнасці апазіцыі, якія, на яго думку, прывядуць да поспеху.

Уважліва прачытаў яго прапановы. У мяне склалася ўражанне, быццам спадар Ляўковіч жыве не ў Беларусі, а прыехаў сюды з краіны, дзе даўно існуюць дэмакратычныя інстытуты і нішто не можа перашкодзіць дзяржаўнаму караблю ісці разумным курсам. Наша ж першая асоба публічна прызнаецца: маўляў, у маіх руках — усе рычагі, каб не пусціць на "трон" таго, каго не жадаю...

А.Ляўковіч піша: *"Если оппозиция еще до парламентских выборов не предложит своей стратегии на выигрыш в президентской кампании, то "хитроумный" так и останется на троне, а оппозиции останется только одно — вырядиться в тогу страдальцев за народную правду".* Усё гэта так. Але добра вядома, што нават самая бліскучая стратэгія застанецца на паперы, калі не будзе падмацавана неабходнымі сродкамі для яе ажыццяўлення.

Сёння ж у апазіцыі — давайце глядзець праўдзе ў вочы — няма такіх сродкаў (імі, вядома, з'яўляюцца тэлебачанне, радыё, газеты з вялікімі накладамі). І спадзеўкі, што яны з'явяцца ў хуткім часе, няма. Таму ніякая стратэгія ў гэтым сэнсе не зможа быць паспяховай. У свой час тое добра зразумеў Ул.Ленін, калі на першае месца ў падрыхтоўцы рэвалюцыі ставіў стварэнне партыйнай газеты і цэлага "штату" прафесіяналаў-рэвалюцыянераў, якія б яе распаўсюджвалі сярод шырокіх мас.

Калі дадаць да гэтага, што сённяшняй уладай створаны і адладжаны выбарчы механізм фальсіфікацый, дык зусім не істотна, колькі кандыдатаў апазіцыя будзе спрабаваць зарэгістраваць. Яны, хутчэй за ўсё, і зусім не будуць зарэгістраваныя. А калі ўсё ж нехта "ўшчэміцца" ў шыхт кандыдатаў, дык вельмі праблематычна, што будуць улічаны аддадзеныя за яго галасы выбаршчыкаў, калі гэты кандыдат будзе не даспадобы кіраўніцтву краіны.

Гэта рэаліі, якія нельга не бачыць і не ўлічваць: самападман да дабра не давядзе.

Аўтар артыкула прапануе: *"Уже сегодня оппозиция должна публично и гласно начать формирование списка возможных кандидатов в президенты... Нужно развернуть широкую дискуссию по всей стране, охватить самые отдаленные регионы, дойти до глубинки с целью подготовить людей к восприятию оппозиционных кандидатов на высший государственный пост".*

І гэта быццам правільна (канечне ж, "нужно"!), але таксама надта ўжо ўтапічна. У якім раённым цэнтры, не кажучы ўжо пра вёскі, "вертыкаль" дазволіць правесці сустрэчу з выбаршчыкамі ва ўмяшчальным Доме культуры ці клубе прадпрыемства? Як толькі імёны непажаданых уладзе будуць агучаны, яна з усіх калібраў абрыне агонь усялякай лухты супраць дэмакратычных кандыдатаў, і наўрад ці ўдасца ў глыбінцы сабраць хоць некалькі дзесяткаў людзей на сустрэчу, каб расказаць ім праўду... Паверце, мне хацелася б іншага, але нельга ісці ў палітыку без адчування рэальнасці, у ружовых акулярах.

Як без свабоднага доступу на тэлебачанне і радыё, на старонкі масавых дзяржаўных газет раскруціць патэнцыяльных кандыдатаў? На жаль, сп.Ляўковіч, разумеючы, што трэба рабіць, нічога не кажа, як гэта можна зрабіць. Па-мойму, такая гаворка, прабачце, не мае вялікага сэнсу.

Вельмі слушна аўтар кажа: *"Главное в политике — влияние на общественное мнение, воздействие на большинство".* І прапануе стварыць "клуб", куды павінны ўвайсці ўсе, хто лічыць сваёй галоўнай мэтай канстытуцыйную змену існуючага рэжыму. Дзеля чаго? Будзе такі "клуб" хутчэй элітным салонам — накшталт нейкай масонскай ложы, дзе будуць за кубачкам кавы спаборнічаць ў красамоўстве адны і тыя ж "лідэры", бо ўсё на практыцы ўпіраецца ў гэтае класічнае трыадзінства: тэлебачанне, радыё, масавыя дзяржаўныя газеты.

А чаго вартае такое вынаходніцтва: *"Если подобная стратегия не увенчается успехом и общество не получит общенационального лидера, можно использовать как запасной вариант сценарий польской "Солидарности". Собрать и провести республиканский "круглый стол" региональных и столичных лидеров, выбрать белорусского "Валенсу" и начать его интенсивную раскрутку"?*

Тут ужо А.Ляўковіч, здаецца, сышоў канчаткова з рэльсаў рэальнай палітыкі ў нейкую віртуальную фантастыку. У Польшчы пры камуністычным рэжыме магутным, уплывовым апанентам яму з'яўлялася каталіцкая царква, якая кансалідавала вакол сябе большасць насельніцтва — рабочых, сялян, інтэлігенцыю. Касцёл падтрымліваў Леха Валенсу, і гэта кампенсавала тое, што "Салідарнасць" не дапускалі да тэлебачання і радыё. Хаця такога гвалту, як у нас, там нават тады не было.

А што ў нас у гэтым рэчышчы? Галоўная канфесія ў Беларусі — гэта экзархат Рускай праваслаўнай царквы, з якой існуючы рэжым падпісаў пагадненне. Дык пра які "польскі сцэнарый" можна весці гаворку?

Нам патрэбны свой, беларускі сцэнарый — на падмурку ўласнага жыцця, з улікам сённяшніх рэаліяў. Не скінуўшы ўжо згаданыя ружовыя акуляры, яго не ўбачыць. Вось над чым, лічу, трэба дзень і ноч думаць і працаваць нашай апазіцыі.

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ,**
**ветэран Айчыннай вайны.**

*Слаўгарад.*

SOS!

# «Кинули» народных заседателей?

***В корпункт "Народной воли" обратилась народный заседатель Первомайского суда города Витебска Елена Гердова, которая рассказала, что ее коллеги и она сама с января 2003 года не получали деньги, причитающиеся за участие в судебных процессах. Казалось бы, проблемы с зарплатой такой категории граждан не должно существовать, ведь Фемида находится под особым государственным оком. К тому же не так давно центральные СМИ опубликовали обнадеживающую статистику: дескать, с выплатой зарплаты у нас все нормально. Оказывается, не все так просто. Не только колхозники зарабатывают "трудодни", но и с заседателями расплачиваются, как Остап Бендер, — звоном монет.***

Елена Гердова говорила, что ее коллеги давно отказались бы от участия в судах, но старшие по должностям постоянно утверждают, что надо потерпеть и причитающиеся деньги выплатят. Отказаться от судебных обязанностей не так просто. Во-первых, имеются отложенные дела, которые целесообразнее заканчивать в прежнем составе. Во-вторых, начисляемый почасовой гонорар производится из расчета средней зарплаты по Республике Беларусь. Для пенсионера это немалые деньги.

Кстати, почти 100% из числа народных заседателей — пенсионеры. В советское время народных заседателей избирали трудовые коллективы, они же платили им зарплату за дни, проведенные в судах. Теперь же картина изменилась: вряд ли кому-то взбредет в голову отвлекать на сторону рабсилу. Да и заработанные деньги научились считать, а главное — ценить. Поэтому несколько лет назад суды проявили инициативу, пошли "в народ" и на пять лет подобрали кадры для совместной работы из лиц пенсионного возраста. Сессия областного Совета списки кандидатов одобрила. Положение о народных заседателях утверждено декретом президента Республики Беларусь. Выходит, народные заседатели не "кивалы", как их окрестили в народе, а люди при исполнении долга, определенного законом. И пока он существует (хорош или плох — не об этом речь), то с ним надо считаться, тем более что закон подписан главой государства. Но поскольку суды финансирует Минюст, то невольно возникает вопрос: неужели это ведомство не понимает важности законодательства о народных заседателях? Если такая категория специалистов в судах не нужна, то кому, как не юристам, высказать свою точку зрения на этот счет? Когда пенсионеров "сватали" на должность, им обещали исправно платить за их труд, а не с задержками... на год. Заседатели ежемесячно составляют отчеты о часах, проведенных за столом под гербом, бумаги утверждаются председателем суда и сдаются для оплаты в бухгалтерию областного Управления юстиции. А там их кладут "под сукно". Не совсем понятны высказывания иных юристов, что пенсионеры-заседатели не бедствуют без средств к существованию, а порой находятся в лучшей ситуации, чем работающие. Опытный судья со стажем Наталья Гурьян (тоже из Первомайского суда) считает, что народные заседатели — это не каприз моды, а лица, наделенные правом голоса наравне с судьей. Часто приходится советоваться с ними, пусть не по юридическим вопросам, но хотя бы по человеческим. Ведь судьи решают судьбы людей, и мнения пожилых заседателей важны.

Главный бухгалтер Управления юстиции Витебского облисполкома Татьяна Зверева уточнила, что долг народным заседателям составляет 12 миллионов рублей. Пенсионеры-заседатели атакуют кабинеты областной и даже республиканской юстиции. Но их встречают "утешающей" контратакой: поступят деньги — сразу будет расчет. Татьяна Тимофеевна сетует, что столичные коллеги уже перестали отвечать на письма, а телефонные звонки — тоже впустую: дескать, нет денег. Атака безденежной армии Фемиды продолжается. Если учесть, что на каждого судью районного масштаба положено, по декрету президента, 35 заседателей, то количество людей, ожидающих обещанного, только в Витебске составит более одной тысячи.

Скорее всего атакующие добьются своего, да и глава государства, похоже, вмешается в ситуацию, ведь судьи — его ставленники, а значит, их помощники не должны быть ущемлены. Пусть они не великие знатоки юриспруденции, но все же их присутствие в судах обязательно (по существующему законодательству) при рассмотрении уголовных дел несовершеннолетних и тех, по которым предусмотрено наказание в виде лишения свободы на срок более десяти лет. Реалии жизни таковы, что народным заседателям в судах дремать не придется. Значит, к ним надо повернуться лицом, а не держать глухую оборону тыльной стороной. Многие пенсионеры привыкли верить в обещания, жаль, что не усвоили прописную истину: обещанного три года ждут, а бывает, и до бесконечности. Денежные проблемы страны затрагивают большинство слоев населения, суды не исключение. Экономическую мощь государства надо оценивать не говорильней, а количеством денег в карманах людей и покупательской способностью. Конечно, было бы идеально, если бы наши пенсионеры не вкалывали, чтобы с голоду не умереть, а путешествовали по свету, как это делается в цивилизованном обществе, где, кстати, заработанные деньги не вымаливаются и не выколачиваются из-под палки. В Японии, к примеру, за несвоевременную выплату зарплаты на виновного чиновника надевают наручники и сажают на скамью подсудимых. У нас же вопросом зарплаты занимаются многие структуры власти и даже президент. Приходится и прессе подключаться к архисложной проблеме. Наверное, ее не существовало бы, если бы правительство получало свою зарплату после последнего труженика или пенсионера. Печально, но у нас иные реалии: колхозникам должны миллиарды рублей, так что 12 миллионов, которые государство не выплачивает судебным заседателям, — капля в море. Печально вдвойне, что даже такую каплю не могут отыскать в дырявом бюджете страны... А все норовят в лидеры!

**Владимир ЖИГУЛОВ.**

## Падрыхтавана анталогія Мулявіна і «Песняроў»

Падрыхтавана анталогія "Творчая спадчына народнага артыста СССР Уладзіміра Мулявіна і ансамбля "Песняры".

Яна ўяўляе сабою зборнік аўдыёзапісаў на 20 кампакт-дысках, у які ўвайшлі 234 творы. Сярод іх — беларускія народныя песні ў апрацоўцы ансамбля "Песняры", ваенныя песні, песні Ігара Лучанка ў выкананні ансамбля, песні ўдзельнікаў ансамбля, песні савецкіх кампазітараў у выкананні ансамбля "Песняры" і іншыя. Анталогія ахоплівае ўвесь перыяд дзейнасці калектыву ў адпаведнасці з храналагічнай паслядоўнасцю творчага развіцця. У ёй прадстаўлены тэматычныя праграмы, аўтарскія кампазітарскія зборнікі песень У.Мулявіна і ўдзельнікаў ансамбля "Песняры". Кожны кампакт-дыск суправаджаецца кароткай літаратурнай анатацыяй, якая апісвае прадстаўлены зборнік, і аформлены адпаведнымі фотаматэрыяламі.

Апрача таго, рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам "Беларускі відэацэнтр" створаны дакументальны відэафільм пра Уладзіміра Мулявіна "Гучанне жыцця".

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

